www.nv-online.info

№ 37 (3880)

16 мая 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СКАЗАНО!



## *Александр ЛУКАШЕНКО: «Мы хотим видеть сильную Украину...»*

**Мне лично и с точки зрения государства нам Украина очень близка. Мы категорически против тех событий, которые, к сожалению, еще происходят и имеют развитие. Мы за то, чтобы это ушло. Чтобы Украина развивалась как единое целостное государство. Чтобы это была наша Украина. Мы даже не представляем себе, чтобы Украина занимала какую-то позицию, противную Беларуси. И потому я открыто говорю о вопросах, которые нас очень волнуют, в том числе связанных с НАТО. Нет необходимости втягивать Украину в какие-то блоки, вводить туда какие-то войска ни с одной, ни с другой, ни с третьей, ни с десятой стороны. Украина должна быть Украиной. Это 45 миллионов населения, это близкий нам народ, это самодостаточная страна, и если ей помочь, а не мешать, то это будет очень влиятельная страна. Может, кому-то не хочется, чтобы она была сильной и влиятельной. Но это не моя позиция и не позиция белорусского народа. Мы хотим видеть сильную Украину, с которой можно сотрудничать, торговать, как мы последние годы это делали. Мы надеемся на то, что вернемся к этим объемам, и готовы в этом направлении сделать максимум, вы в этом должны быть уверены. Встречаясь с исполняющим обязанности президента Украины, я однозначно, даже по-дружески ответил на многие вопросы конфиденциального характера, на его настороженности, и я свято придерживаюсь тех договоренностей. Поэтому со стороны Беларуси вы можете рассчитывать только на доброе отношение к Украине и ко всему украинскому народу. Если вам нужна будет какая-то помощь от нас (кроме посредничества — вот это исключено; я это терпеть не могу), если нужна будет помощь от меня как человека, который очень близко к сердцу воспринимает все, что происходит в Украине, я готов в любой момент оказать и поддержку, и помощь”.**

*(Во время вчерашней встречи с послом Украины в Беларуси Михаилом Ежелем.)*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# І ў радасці, і ў горы...

*Ужо тыдзень, як у Мінску працягваецца першынство свету па хакеі.*




Хакейныя баталіі на пляцоўках, безумоўна, справа цікавая, але для балельшчыкаў — не галоўная. Бо большую частку вольнага часу яны вымушаны сябе нечым займаць, і тут, як кажуць, неабсяжная прастора для творчасці.

Хтосьці накіроўваецца на экскурсіі ў Мірскі замак, Нясвіж ці Дудуткі, нехта проста шпацыруе па горадзе, іншыя сядзяць у фан-зонах, дзе п’юць піва, ядуць ды знаёмяцца з “калегамі” з іншых краін.

Паводле звестак Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама, толькі за пяць дзён чэмпіянату фанаты выпілі каля 130 тысяч літраў піва, з’елі 10 тон шашлыку і больш за 25 тон каўбасак і курыных крылцаў. Больш за ўсё прадаюць у фан-зоне ля Палаца спорту, што зразумела — цэнтр горада і зусім недалёка ад “Мінск-Арэны”. Наш карэспандэнт таксама наведаўся туды...

Удзень тут не так шматлюдна, як увечары і ноччу.

— Да абеду слабенькія продажы, — кажа мне прадаўшчыца Кацярына. — Але затым ажываюць. П’юць жа да раніцы, а прачынаюцца ў абед.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

ТЭМА ДНЯ

# Ой, хітруе спадарыня Емяльянава!

Пасля таго, як у “Народнай Волі”, а таксама ў іншых выданнях, з’явіліся матэрыялы пра дэфіцыт якаснай свініны на паліцах сталічных крам, кіраўнік упраўлення гандлю і паслуг Мінгарвыканкама **Ніна ЕМЯЛЬЯНАВА** паведаміла: “*У крамах мяса на паліцах ёсць. Ёсць і свініна, і ялавічына, і мяса птушкі*”.

Ой, хітруе спадарыня! Калі мець на ўвазе агульны сэнс слова “мяса”, то яно як быццам ёсць, бо і ў фарш, і ў каўбаскі яно ў тых ці іншых прапорцыях уваходзіць. Цяпер можна набыць з разрубу тазасцегнавую частку свініны ці кавалкі смажанкі... Праўда, па новых, астранамічных, коштах. Людзі кажуць і пра тое, што час ад часу адчуваюць перабоі і з набыццём тушак птушкі. Можна набыць асобна крылцы, курыныя грудкі, вантробы... А каб набыць тушку цалкам, даводзіцца наведаць не адну краму. Так што ў апошні час да мяснога дастатку нам далёка.

Сцвярджэнне чыноўнікаў аб тым, што на рынках усё завалена мясам, таксама выклікае здзіўленне. На сталічным Камароўскім рынку ў дзень майго наведвання было няшмат людзей. За прылаўкамі — вольныя месцы. Гандляркі гучна запрашалі кожнага, хто трапляў на вочы, купіць хоць што-небудзь. Але кусаліся цэны! Свежае сала прапаноўвалі па 75 тысяч за кілаграм. Дарэчы, як высветлілася, толькі двое прадаўцоў гандлявалі хатняй свінінай. Усё іншае мяса — са свінакомплексаў. Пры гэтым амаль на кожнай вітрыне напісана, што мяса з хатняй гаспадаркі. Як пакупніку даведацца, за што ён плаціць немалыя грошы? “*О-о, а вы вось панюхайце ды паглядзіце. Параўнайце вось з тым, якое побач. Ну? Адчуваеце, якая розніца*?” — кажа мне гандлярка Аксана, у якой сапраўды хатняе мяса. Тым часам ахоўнік рынку падвёў да яе прылаўка свайго знаёмага. Той адразу папрасіў узважыць лапатку, спытаўся, ці можна набыць пару кілаграмаў шыі. “*Ды не, вы спазніліся. Шыя “сышла” першай. Усю адразу забралі. Вось усё, што засталося. Бярыце, а то зараз і гэтага не будзе*”, — параіла жанчына. “*Я такое мяса прадам хутка. Ужо ў 4 гадзіны дома буду. А то стаіш-стаіш да паловы на шостую, ды яшчэ ж і застаецца тавар*”, — паскардзілася Аксана.



Чаму на рынку няма хатняга мяса? Які сэнс набываць мяса з таго ж комплексу, з якога яно завозіцца ў крамы, але па больш высокіх коштах? Запытваюся ў той жа Аксаны: “Чаму ў вас ёсць хатняе, а ў іншых няма?” “*Ды ў мяне толькі сёння ёсць. Канешне, усе хочуць хатнім мясам гандляваць, але гэта ж вельмі складана. Мы можам браць на рэалізацыю мяса з хатніх гаспадарак толькі з Мінскай вобласці. Трэба ж дазвол Дэпартамента. Усё не так проста. А людзі просяцца на рынак і з Брэсцкай, і з Гродзенскай абласцей. Але нам забаронена там закупляць прадукцыю. Чаму? Гэтага ніхто не разумее. Забаронена — і ўсё тут! Веткантроль тут ні пры чым. Падчас эпідэміі афрыканскай чумы свіней была іншая сітуацыя. Я кажу пра нармальнае мяса, якое прайшло праверку. Папросту, відаць, прынята такое рашэнне нейкімі чыноўнікамі*”.

Заўважаю: на тым жа Камароўскім рынку ў краме холадакамбіната каля прылаўка з мясам вялізная чарга пенсіянераў. Чарга цягнецца і за дзвярыма крамы. Высветлілася, што тут кошт свініны — 54.600 рублёў, значна танней, чым у прыватных гандляроў.

Як бачым, праблема з мясам не ўтрэслася. Тым часам у нашых суседзяў, напрыклад у Літве, сітуацыя значна лепшая. У суседнім Вільнюсе недалёка ад вакзала на рынку прадукцыі зашмат. Можна набыць свежыну з хатніх гаспадарак. Гандляры прапаноўваюць паляндвіцу за 15 літаў. Калі вы скажаце, што возьмеце не адзін кілаграм, то адразу зробяць зніжку. Тады ў пераліку на беларускія грошы паляндвіца абыдзецца не па 60 тысяч за кілаграм, а нават па 50. Тазасцегнавую частку можна набыць за 8 літаў (за 36 тысяч рублёў). Розніца ўражвае. Некалькі чалавек гандлююць далікатэсамі — вэнджанае сала, кумпяк, каўбасы, сальцісон. Прыгожае вэнджанае сала з кавалкам мяса зверху каштуе 17—18 літаў — гэта недзе 68—70 тысяч рублёў. Да прыкладу, на Камароўскім рынку з-пад крыса за такі далікатэс трэба заплаціць 130 тысяч рублёў — амаль у два разы даражэй. У краме “Махіма” паляндвіца каштуе крыху даражэй — 17 літаў. Але не трэба забывацца пра зніжкі. Да таго ж смажанку там можна набыць за 6,5 літа — 26 тысяч рублёў. Фарш ёсць як чыста свіны, так і з дабаўкамі. Можна нават паказаць, з якога менавіта мяса вы хочаце яго зрабіць. Гандляркі перакруцяць за пару хвілін усё, што вы ўзважыце. Закруцяць у пакецік, і дома можна не губляць шмат часу на прыгатаванне страў. Але ў Літве ёсць крамы, дзе кошты ніжэй, чым у “Махіма”. Пры гэтым расхацелася нават параўноўваць нашы заробкі з іхнімі...

**Любоў ЛУНЁВА.**



УЧОРА

## *З другой спробы*

У чацвер Масква і Мінск падпісалі доўгачаканы крэдытны дагавор на 500 мільёнаў долараў.

Больш за два гады Мінск вёў перамовы аб атрыманні гэтай сумы на авансавыя плацяжы пад будаўніцтва беларускай АЭС. І вось учора расійскі “Внешэкономбанк”, урад Беларусі і Банк БелВЭБ заключылі доўгачаканы крэдытны дагавор. З другой спробы — кіраўнік “Внешэкономбанка” Уладзімір Дзмітрыеў ужо прыязджаў у Мінск на пачатку красавіка, але анансаванае падпісанне тады так і не адбылося.

## *Пакараны за салідарнасць*

У судзе Першамайскага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы актывіста **Алега Керуля.** Прысуд — 25 сутак арышту.

Напярэдадні, 14 мая, суддзя Юрый Гарбатоўскі, які вёў адміністрацыйны працэс, накіраваў справу актывіста на дапрацоўку. Справа ў тым, што сведкі з боку міліцыі В.С.Жарскі і Б.Г.Бык разышліся ў паказаннях. Алег Керуль быў адпушчаны з суда, аднак ён вырашыў зайсці за сваімі рэчамі ў РУУС Першамайскага раёна, і там яго зноў затрымалі. Ды і міліцыянеры вызначыліся з тым, што трэба гаварыць на судзе.

Алега Керуля затрымалі каля Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску. Ён расклейваў налепкі з тэкстам салідарнасці з актывістамі, затрыманымі напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі.

## *Так чакалі...*

Кансультацыі аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і краінамі Еўрасаюза, якія планаваліся правесці ў Мінску ў другой палове мая, пройдуць пазней.

Пра гэта ўчора паведаміў журналістам прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі **Дзмітрый Міронччык.** Ён запэўніў, што ніякіх палітычных матываў у адтэрміноўцы няма.

РЕГИСТРАТУРА

# Широкий жест?

*“Городу нужна больница. Немалая больница. Я, конечно, очень аккуратно и осторожно отношусь к строительству новых больниц, надо было бы нормально загрузить существующие, но тем не менее*”, — заявил вчера Александр Лукашенко. И предложил такой вариант: “*У нас есть так называемая президентская больница в ведении Управления делами президента, поэтому, чтобы не строить новые больницы, мы могли бы эту махину передать городу, а построить небольшой клинический центр для выполнения тех функций, которые сегодня выполняет больница при Управлении делами президента, построить где-то под городом или в городе соответствующую больницу*”.

Все бы ничего, и можно было бы даже похвалить руководителя страны за столь широкий жест. Но... Еще в сентябре прошлого года было известно, что в поселке Ждановичи под Минском, в лесном массиве подальше от людских глаз планируется строительство “под ключ” “комплекса зданий государственного учреждения “Клинический медицинский центр”. “Народная Воля” написала об этом первая, информация разошлась по многим сайтам... Тогда был объявлен тендер, Управление делами президента искало компанию, которая построит новую спецбольницу для чиновников и оснастит ее самым современным медицинским оборудованием. Называлась и предположительная сумма, которая потребуется для строительства “под ключ” нового медицинского объекта, — 100 миллионов евро, и ориентировочный срок сдачи клиники — май 2016 года.

Вряд ли Александр Лукашенко не знал о планах, которые строились в подчиненном ему ведомстве. Более того, уже в апреле этого года стало известно, что тендер на строительство новой президентской клиники выиграла турецкая компания “Emsas”, которая присутствует на нашем рынке с начала 2000-х годов и которую хорошо знают в Управлении делами президента. Именно эта компания уже выигрывала тендеры на реконструкцию объектов, которые принадлежат Администрации президента. В разные годы “Emsas” реконструировала отель “Минск”, гостиницу “Октябрьская”, которая стала “Президент-отелем”. И ясно, что уже в самое ближайшее время в лесном массиве под Ждановичами появится строительная техника. И никто не будет думать, надо или нет *“построить где-то под городом или в городе соответствующую больницу*”, потому что уже известно где, кем и для кого она будет построена.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПРЫГАВОР

## *Не пашкадавалі*

Учора суд Маскоўскага раёна Мінска вынес прысуд былому намесніку старшыні канцэрна “Белнафтахім” **Уладзіміру Волкаву.**

Суд прызнаў былога чыноўніка вінаватым у атрыманні хабараў і прызначыў яму пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 8 гадоў з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Як заявіла суддзя Наталля Кузняцова, Уладзімір Волкаў прызнаны вінаватым “у здзяйсненні злачынства па ч.3 ст.440 Крымінальнага кодэкса Беларусі — у атрыманні службовай асобай матэрыяльных каштоўнасцяў у асабліва буйным памеры выключна ў сувязі з займаемым ім службовым становішчам”. Яна паведаміла, што, акрамя таго, Уладзіміру Волкову прызначана канфіскацыя маёмасці, ён пазбаўлены права на працягу 5 гадоў займаць пасады, звязаныя з адміністрацыйна-распарадчымі функцыямі.

У адпаведнасці з прысудам, арыштаваная маёмасць былога топ-менеджара канцэрна “Белнафтахім” — дзве кватэры, гараж, швейцарскі гадзіннік, падарункавы набор для сервіроўкі стала, 87 тысяч долараў, 550 еўра, 8 тысяч расійскіх рублёў — канфіскоўваюцца ў даход дзяржавы.

Абаронцы Уладзіміра Волкава адразу паведамілі журналістам, што будуць абскарджваць прысуд.

Нагадаем, што ў кастрычніку 2013 года Уладзімір Волкаў быў затрыманы пасля атрымання чарговай часткі хабару ад прадстаўніка аднаго з юрыдычных асоб за вырашэнне пытання аб узгадненні аб’ёмаў перапрацоўкі спадарожных прадуктаў нафты на прадпрыемствах канцэрна. Яго вінавацілі ў атрыманні хабару ў 19 тысяч долараў. Пазней Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што Волкаў быў затрыманы за хабар пры размеркаванні кантрактаў, а ўслед за ім — “цэлы шлейф ягоных паплечнікаў” з прыватных структур. У канцэрне “Белнафтахім” Уладзімір Волкаў курыраваў нафтаперапрацоўчую прамысловасць, а таксама пытанні экспарту і імпарту нафтапрадуктаў.

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Штрафной удар

Недавно у нашей сотрудницы, припарковавшей машину буквально на 15 минут под запрещающим знаком, эвакуировали авто. Хотела сэкономить время, а потеряла почти полдня и 750 тысяч рублей. Причем штраф за неправильную парковку был не таким уже и большим — 150 тысяч (одна базовая величина). Основная сумма ушла на услуги эвакуации, штрафстоянки и такси, на котором пришлось добираться до расположенной в тьмутаракани штрафстоянки.

Звучит как издевательство. Машину эвакуировали и еще потребовали 380 тысяч рублей за услугу эвакуатора. А сколько горемыке пришлось побегать! Сначала на штрафстоянку, оттуда в ГАИ, потом снова на штрафстоянку, затем в банк — и только тогда машину вернули “из плена”.

Я сейчас совершенно не защищаю коллегу. Нарушила — заплати. Но что возмущает в этой ситуации: никому ее машина НЕ МЕШАЛА. Ее забрал эвакуатор, а через пять минут на это же место “вскочил” новый нарушитель. В большинстве европейских стран за такое нарушение — квитанция о штрафе на лобовое стекло. Но машину не трогают. Там эвакуация разрешена только в том случае, если автомобиль нарушителя перекрыл проезд, создает пробку и т.п. Почему нельзя это правило применить у нас?!

Автолюбители давно заметили: у нас эвакуируются не те машины, которые мешают, а те, к которым эвакуатору удобно подъехать. В столице все больше появляется запрещающих знаков, а увозить машины по высоким тарифам — выгодный бизнес... Как правило, к безопасности движения это не имеет никакого отношения. Ну вот, например, на широкой улице Ульяновской на участке между улицами Ленина и Энгельса крайняя полоса всегда использовалась автолюбителями как парковка. Но недавно здесь появился запрещающий знак. Зачем? Чтобы эвакуаторам дать работу в удобном месте?

Сегодня в центре Минска 80% территории имеют запрет на парковку. Вместо того чтобы расширять парковочные зоны, их сокращают. А люди приезжают на работу, в магазины, по делам, в театры, рестораны и т.д. и т.п. Где им парковаться? Правильно — под запрещающими знаками. Это ведь очень удобно — пополнять городскую казну за счет штрафов. Сейчас вот депутаты приняли поправки в законопроект, который позволит взимать штрафы с нарушителей парковки на основании фото- и видеофиксации. Деньги в казну просто рекой польются.

Еще раз повторю — я не защищаю нарушителей. Тех, кто бросает машины на газонах, детских площадках, заезжает на тротуары, штрафовать надо. И размер штрафа должен быть немаленький. Но когда запрещающий знак появляется на улицах, переулках и в тех местах, где припаркованные машины никому не мешают, это воспринимается как некое вредительство, будто кто-то специально хочет разозлить водителей, посеять недовольство в массах. Или это просто такой способ зарабатывания денег? Чиновники ведь не стесняются заявлять: “Если хотите в центр приехать на машине и не можете припарковаться — это ваши проблемы”. Но почему это наши проблемы, а не архитекторов, не городских властей? Почему они не заботятся об удобстве горожан, в том числе — автолюбителей? Целые отделы работают, определяют, сколько на тысячу населения необходимо магазинов, поликлиник, дорог, тротуаров, наверное, прогнозы делают, как и куда город будет расти. И что? С каждым годом в Минске становится все труднее передвигаться и парковаться. В прошлом году тогдашний председатель Комитета архитектуры и градостроительства Мингорисполкома Александр Петров заявил: *“Сегодня 70% машин, которые мы видим в центральной части города, — это транзитные, им в центр не нужно. Если бы у нас заработало 1-е городское кольцо, они бы ехали по кольцу. Но, чтобы кольцо заработало полномасштабно, нужно сделать еще четыре развязки”.* Так сделайте! Почему деньги на Дворец Независимости есть, а на развязки, которые создадут удобства для тысяч людей, — нет?!

Или парковки во дворах. В любом микрорайоне сегодня найти место для хранения машины — большая проблема. И все об этом знают. Однако город уплотняют, новые микрорайоны строят в поле, но дома лепят без учета парковочных мест для жителей новостроек. Чиновники, правда, возражают: строим, мол, подземные и надземные многоуровневые паркинги, а водители ленятся пройти метр другой и паркуются где попало. Но это циничное заявление. Потому что места на парковках стоят в Минске почти как однокомнатная квартира. Аренда места в паркинге уже доходит до 750 тысяч в месяц. А открытых парковок в микрорайонах, где цены действительно приемлемые, — раз два и обчелся.

Так почему так происходит? Не потому ли, что так удобнее работать: не условия создавать, не парковки строить, а запрещать, знаки ставить и штрафовать?

Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 МАЯ 2014 г.

БЫЛО...

# Мяжа

*14 мая 1995 года з ініцыятывы Аляксандра Лукашэнкі, падтрыманай шэрагам праўладных партый і грамадскіх арганізацый, і згодна з пастановай Вярхоўнага Савета, быў праведзены першы беларускі рэферэндум. Сёння палітолагі кажуць, што гэты рэферэндум стаў мяжой, на якой скончыўся перыяд рэфармацыі і пачаўся перыяд контррэфармацыі. Менавіта з таго часу ў Беларусі пасля дэмакратычнага пад'ёму пачаўся заняпад.*



Дэпутаты абвясцілі галадоўку.



Аляксандр Шут паказвае гематомы пасля збіцця.

## Сухія лічбы

На галасаванне былі пастаўлены чатыры пытанні, першыя тры з іх — на абавязковы рэферэндум, пастанова якога насіла канчатковы характар, а чацвёртае — на кансультацыйны, пастанова якога насіла рэкамендацыйны характар:

1.Ці згодны Вы з наданнем рускай мове аднолькавага статусу з беларускай?

2.Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?

3.Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, скіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?

4.Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрмінованага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага ці грубага парушэння Канстытуцыі?

Паводле афіцыйных звестак, у спісы грамадзян, якія мелі права ўдзельнічаць у рэферэндуме, было ўключана 7.445.820 чалавек, бюлетэні для галасавання атрымалі 4.830.582 чалавекі (64,8%), у галасаванні ўзялі ўдзел 4.823.482 чалавекі.

За адабрэнне пытання "Ці згодны Вы з наданнем рускай мове аднолькавага статусу з беларускай?" выказаліся, калі верыць афіцыйным лічбам, 4.017.273 чалавекі (88,3% ад колькасці ўдзельнікаў галасавання, або 53,9% ад колькасці ўсіх, хто мае права голасу), супраць — 613.516 чалавек (12,7% ад колькасці ўдзельнікаў галасавання), 192.693 бюлетэні прызнаны несапраўднымі ў частцы гэтага пытання.

За адабрэнне пытання "Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?" як быццам выказаліся 3.622.851 чалавек (75,1% ад колькасці ўдзельнікаў галасавання), супраць — 988.839 чалавек (20,5% ад колькасці ўдзельнікаў галасавання), 211.792 бюлетэні прызнаны несапраўднымі ў частцы гэтага пытання.

Станоўчы адказ далі на пытанне "Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, скіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?" 4.020.001 чалавек (83,3% ад колькасці ўдзельнікаў галасавання), супраць — 602.144 чалавек (12,5% ад колькасці ўдзельнікаў галасавання), 201.337 бюлетэняў прызнаны несапраўднымі ў частцы гэтага пытання.

За адабрэнне пытання "Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрмінованага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага ці грубага парушэння Канстытуцыі?" выказаліся (зноў жа па афіцыйных звестках) 3.749.266 чалавек (77,7% ад колькасці ўдзельнікаў галасавання), супраць — 857.485 чалавек (17,8% ад колькасці ўдзельнікаў галасавання), 216.731 бюлетэнь прызнаны несапраўднымі ў частцы гэтага пытання.

## Першы шок

Рэферэндуму папярэднічалі драматычныя падзеі, якія мелі для краіны не меншыя наступствы, чым самі вынікі галасавання. 18 сакавіка 1995 года група дэпутатаў Вярхоўнага Савета звярнулася да прэзідэнта з ініцыятывай правядзення рэферэндуму, 20 сакавіка кіраўнік дзяржавы агучыў прапанову парламента, а 23 сакавіка дэпутаты ад апазіцыі падрыхтавалі праект пастановы Вярхоўнага Савета, паводле якой планавалі адхіліць прапанову прэзідэнта. Аргументы праціўнікаў рэферэндуму былі наступныя: **пытанні аб статусе рускай мовы і стасунках з Расійскай Федэрацыяй супярэчаць частцы 3 артыкула 3 Закона "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь", а пытанні аб дзяржаўным гербе і сцягу, а таксама магчымасці роспуску Вярхоўнага Савета "не маюць юрыдычнай дакладнасці і не даюць магчымасці атрымаць адназначны адказ".**



Развітанне з сімвалам.



Іван Ціцянкоў ставіць аўтограф на кавалках сцяга.

Галасаванне ў парламенце павінна было адбыцца 11 красавіка. На ім 18 дэпутатаў, што выступалі супраць правядзення рэферэндуму, абвясцілі галадоўку на прыступках каля трыбуны залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Гэта былі Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Пётра Садоўскі, Сяргей Антончык і іншыя — усяго 19 чалавек.

Іх пратэст быў гвалтоўна спынены супрацоўнікамі спецслужбаў. Уначы з 11 на 12 красавіка, кіруючыся інфармацыяй аб мініраванні будынка парламента, у залу пасяджэнняў быў уведзены АМАП і супрацоўнікі службы бяспекі прэзідэнта, якія сілком вывелі дэпутатаў.

Пасля Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што ён асабіста аддаў загад аб "эвакуацыі ў мэтах бяспекі".

Гэта была першая сілавая акцыя на той момант новай беларускай улады, адкрыты наступ на палітычных апанентаў, і беларускае грамадства яго праглынула. У выніку 13 красавіка на чарговым пасяджэнні Вярхоўнага Савета 177 парламентарыяў выказаліся за падтрымку рэферэндуму.

Нельга не адзначыць і сітуацыю вакол сродкаў масавай інфармацыі напярэдадні выбараў і рэферэндуму. Так, у снежні 1994 года быў вызвалены ад пасады галоўны рэдактар "Советской Белоруссии", у студзені 1995 года выдавецтву "Дом друку" было забаронена друкаваць 12 незалежных газет, а Беларускае інфармацыйнае агенцтва адышло ў падпарадкаванне Адміністрацыі прэзідэнта. Нарэшце, 18 сакавіка незаконным указам прэзідэнта быў адхілены ад пасады галоўны рэдактар парламенцкай "Народнай газеты" Іосіф Сярэдзіч. Гэтым жа ўказам стварыўся Савет пры прэзідэнце для нагляду за СМІ, які, дарэчы, так і не быў створаны, паколькі ён уладзе ўжо не быў патрэбны.

## Ці быў рэферэндум 1995 года легітымным?

**Сяргей Навумчык, у 1995 годзе дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Урывак з кнігі "Сем гадоў Адраджэння":**

"Рэферэндум адбываўся са шматлікімі парушэннямі закона. Юрысты адзначылі, што ў бюлетэнях (у кожным бюлетэні!) па законе павінна была быць змешчана дакладная выява вынесеных Лукашэнкам на рэферэндум герба і сцяга. Гэтага зроблена не было — грамадзянам прапанавалася выказаць адносіны да "новай" сімволікі (і многія, вельмі многія галасавалі за "новую", мяркуючы, што галасуюць за прынятую ў 1991 годзе). Прэзідэнцкая адміністрацыя свядома заблытвала людзей, а мы былі пазбаўлены магчымасці патлумачыць сітуацыю праз прэсу. Грамадзяне не валодалі поўнай інфармацыяй і не маглі прыняць узважанае рашэнне па ўсіх чатырох пытаннях, бо апаненты прэзідэнта не атрымалі магчымасці агітацыі праз СМІ".

**Міхаіл Пастухоў, у 1995 годзе суддзя Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь. Урывак з артыкула "Ці законны рэферэндум 1995 года адносна надання дзяржаўнага статусу рускай мове?":**

"Аналіз фактаў паказвае, што вынікі рэферэндуму наконт "надання расійскай мове роўнага статусу з беларускай" з прававога пункту гледжання з'яўляюцца нікчэмнымі і падлягаюць адмене.

Як можна змяніць сітуацыю і як можна ануляваць вынікі незаконнага рэферэндуму? У прынцыпе, зрабіць гэта не так складана. Але для гэтага патрэбны адпаведныя ўмовы. Галоўная з іх — узнаўленне ў Рэспубліцы Беларусь асноў дэмакратыі, дзяржаўнасці і законнасці. Тады пытанне аб канстытуцыйнасці майскага 1995 года рэферэндуму непазбежна стане на парадак дня. Новы склад Канстытуцыйнага суда, утвораны дэмакратычным шляхам, зможа разгледзець пытанне аб дзяржаўнай мове ва ўстаноўленым парадку і прыняць па ім законнае рашэнне".

**Рыгор Васілевіч, доктар юрыдычных навук, старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь з 1997-га да 2008 года. Урывак з кнігі "Референдумы в Беларуси и ее путь к независимости в конце XX столетия":**

"Те нарушения, которые были им (Верховным Советом) допущены при назначении референдума в 1995 г., нашли свое продолжение в 1996 году. Что имеется в виду? Вид референдума (обязательный или консультативный) вправе, по нашему глубокому убеждению, определять Президент либо граждане, инициирующие проведение народного голосования. В 1995 г. Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко пришлось преодолевать просто яростное сопротивление Верховного Совета, противившегося проведению народного голосования по отдельным вопросам, в частности о праве досрочного прекращения полномочий Верховного Совета Президентом...

...Споры о символике, к сожалению, остаются. Однако отметим лишь одну интересную деталь. До 4 февраля 1997 г. (почти два года) над Конституционным судом так и не был поднят государственный флаг — ни тот, который был утвержден в 1991 г., ни тот, за который проголосовал на референдуме 14 мая 1995 г. народ. Интересная позиция руководителей Конституционного суда. И только 4 февраля 1997 г. это было сделано".

## Асэнсаванне

16 мая 1995 года, калі вынікі рэферэндуму яшчэ не набылі законную сілу, прэзідэнцкі "завхоз" Іван Ціцянкоў разарваў бел-чырвона-белы сцяг, зняты з будынка Дома ўрада. Пазней, праўда, ён публічна шкадаваў пра зробленае. Маўляў, не ад злосці рвалі — на сувеніры.

А вось Аляксандр Лукашэнка толькі ў гэтым годзе публічна змяніў сваё стаўленне да беларускай мовы. У апошнім пасланні беларускаму народу і нацыянальнаму сходу ён заявіў: "Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове, мы перастанем быць нацыяй..." Але словы — не справа. Як чыніўся здзек з беларускай мовы, так і чыніцца. Да сённяшняга дня амаль усе прадметы ў школах выкладаюцца на рускай мове. Колькасць дзяцей, якія авалодваюць роднай мовай, няўхільна скарачаецца. Нацыянальнага беларускага ўніверсітэта як не было, так і няма, яго стварэнню ўпарта супраціўляюцца чыноўнікі вышэйшых эшалонаў улады. Іх нават не напалохаў Пуцін, які адкрыта заявіў: "Россия там, где кончается русский язык".

Калі падсумоўваць вынікі рэферэндуму, які адбыўся 16 мая 1995 года, то нельга не мець на ўвазе і тое, што ёсць нямала фактаў, якія сведчаць пра парушэнні заканадаўства падчас правядзення рэферэндуму.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### ДАРЭЧЫ

У 2010 годзе намеснік старшыні Геральдычнага савета пры прэзідэнце, дырэктар дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі **Уладзімір Адамушка** паведаміў, што герб "Пагоня" ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

Акрамя таго, гэты геральдычны знак знайшоў сваё месца на гербах гарадоў Віцебск, Верхнядзвінск і Лепель (Віцебская вобласць), а таксама Рэчыца (Гомельская вобласць). Такім чынам, рэферэндумам знішчыць і дыскрэдытаваць гістарычны сімвал беларусаў не ўдалося, ягоны статус на сённяшні дзень замацаваны афіцыйна.

А вось што тычыцца бел-чырвона-белага сцяга, то тут сітуацыя аказалася больш складанай. Прыкрыўшыся навукова нікчэмнай спасылкай на тое, што сцяг быў дыскрэдытаваны нацыянальнымі рухамі, сённяшнія афіцыйныя ўлады ўпарта яго забараняюць.

МЕРКАВАННЕ

## *Гісторык Пятро ПЯТРОЎСКІ:* *Беларусі неабходны новыя дзяржаўныя сімвалы*

У Беларусі неабходна прыняць новыя дзяржаўныя сімвалы, створаныя на аснове сінтэзу ранейшай і сучаснай сімволікі.

Такое меркаванне выказаў гісторык, кіраўнік кансерватыўнага цэнтра NOMOS Пятро Пятроўскі, выступаючы на "круглым стале", прысвечаным праблеме сімволікі.

Паводле яго слоў, гістарычны бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня", якія служылі дзяржаўнай сімволікай у 1991—1995 гадах, і сімвалы сучаснай Беларусі — гэта адметныя сімвалы двух праектаў, якія гісторык называе "Беларусь ліцвінская" і "Беларусь савецкая".

*"У адзін час на грэбні хвалі быў ліцвінскі праект, ён пераважаў; цяпер больш апеляцый да ідэй БССР,* — адзначыў Пятроўскі. — *Але сёння мы павінны выйсці за парадыгмы "Беларусі ліцвінскай" і "Беларусі савецкай" і, як казаў Гегель, зрабіць сінтэз".*

Кіраўнік цэнтра NOMOS сказаў, што на сёння бел-чырвона-беламу сцягу прысвечана шмат даследаванняў: *"Усе ведаюць, што ён з'явіўся ў 1917 годзе, яго распрацоўшчыкам быў Дуж-Душэўскі, гэта факт". "Што да чырвона-зялёнага сцяга, то таксама вядома, хто яго распрацаваў. У ім, дарэчы, таксама ёсць архаічны пласт — арнамент. Цікава, што ў савецкія часы літоўскія і латышскія камуністы зайздросцілі БССР, таму што ў яе быў самы архаічны сцяг",* — падкрэсліў гісторык.

Сучаснай Беларусі, лічыць Пятроўскі, неабходны *"праект, які ўз'яднаў бы нацыю",* і, адпаведна, сімвалы, якія б спалучалі элементы ранейшых культурных пластоў. У якасці сцяга ён прапануе дзяржаўны сцяг Вялікага Княства Літоўскага, які ўяўляе сабой палатно чырвонага колеру з намаляваным па цэнтры гербам "Пагоня".

*"На мой погляд, трэцяя, новая Беларусь павінна распрацаваць кампрамісны варыянт дзяржаўных сімвалаў,* — сказаў гісторык. — *Гэта можа быць герб "Пагоня", бо яго прызнаюць у тым ліку і дзейныя ўлады. А сцягам можа стаць сцяг ВКЛ — ён спалучае чырвоны сцяг перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і герб "Пагоня". Такім чынам, сёння ў нас стаіць задача не зацыкліваца на мінулым, а думаць пра будучыню".*

Гісторыя павінна аб'ядноўваць грамадства, а не падзяляць яго, дадаў Пятроўскі.

ВІНШУЕМ!

## *У Мінску ўручылі прэміі Францішка Багушэвіча і Алеся Адамовіча*

Прэміяй Алеся Адамовіча ўганараваны палітвязень Алесь Бяляцкі за кнігу "Асвечаныя беларушчынай". Прэмію Багушэвіча атрымаў Зміцер Матвейчык за кнігу "Паўстанне 1863—1864 гадоў: нарыс баявых дзеянняў".

За Алеся Бяляцкага прэмію атрымала ягоная жонка Наталля Пінчук. Яна паведаміла, што зняволены праваабаронца ўжо ведае пра ўзнагароду. Наталля Пінчук дадала, што сам аўтар ацэньвае "Асвечаныя беларушчынай" як падсумаванне 25-гадовай працы.

Наталля Адамовіч, дачка Алеся Адамовіча, у гонар якога была заснавана прэмія, заявіла, што Алесь Бяляцкі стаў 34-м лаўрэатам гэтай узнагароды.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## *Дасягненні гродзенца патрапяць у Кнігу рэкордаў Гінеса*

Гіравік з Гродна **Яўген Назарэвіч** усталяваў два рэкорды Гінеса ў расійскім Архангельску.

У рыўку спартсмен 1281 раз падняў 24-кілаграмовую гіру за 60 хвілін. Такім чынам, сумарная вага паднятага грузу перавысіла 30 тон.

Акрамя таго, Яўген усталяваў рэкорд Гінеса ў штуршку. За гадзіну ён узняў гіру 1600 разоў, што ў суме перавысіла 38 тон! Рэкорд гродзенец прысвяціў святу Вялікай Перамогі.

Яўген Назарэвіч працуе электразваршчыкам на заводзе ЖБК ААТ "Гроднапрамбуд". Ён стаў першым жыхаром Гродна, які трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса.

ЧУЛІ?

## *Адзін аднаго не баімся*

Ніжняя палата беларускага парламента ратыфікавала пагадненне паміж Беларуссю і Казахстанам аб парадку знаходжання грамадзян дзвюх краін.

Дакумент дазваляе грамадзянам падпісантаў знаходзіцца на тэрыторыі іншай краіны без рэгістрацыі на працягу 30 дзён.

## *Пінжак з... тэрмометрам*

Бабруйскае ААТ "Славянка" пачало выпускаць школьныя касцюмы з... тэрмометрамі. Як паведамілі на прадпрыемстве, такому ноў-хаў пакуль няма аналагаў у свеце.

Выраблены за мяжой па нанатэхналогіях пластыкавыя тэрмометры на фабрыцы ўшываюць у падшэўку пінжака. Гэта дасць магчымасць тым жа бацькам школьніка, апранутага ў такі касцюм, праверыць тэмпературу і ацаніць стан здароўя дзіцяці.

Паводле слоў дырэктара прадпрыемства **Тэймураза Бачарышвілі,** падобныя тэрмометры "ўбудаваны" ў амуніцыю альпіністаў, адсюль і ўзнікла ідэя аб іх выкарыстанні ў школьных касцюмах.

ЗДАРЭННЕ

## *Падарваўся на сваім двары*

У Івацэвіцкім раёне падарваўся і загінуў 44-гадовы мужчына, які займаўся зборам металічных адходаў вытворчасці.

Трагедыя адбылася ў горадзе Косаве. Па факце ўзбуджана крымінальная справа.

Неўстаноўленае рэчыва падарвалася на падворку загінуўшага пры пагрузцы металалому ў аўтамабіль унітарнага прадпрыемства "Брэствторчермет".

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*



## Западня

Как это ни странно, но Александр Лукашенко за считанные дни, оставшиеся до подписания договора о создании Евразийского экономического союза (ЕАЭС), выжал из Владимира Путина если не все, то весьма многое из того, что хотел.

Это случилось на странной встрече президентов стран, входящих в ОДКБ, где почему-то не было Назарбаева. Саммит ОДКБ был неожиданно организован по инициативе Путина, и что на нем в реальности обсуждалось — знают только участники. На наш взгляд, уступки Путина Лукашенко, если иметь в виду вроде бы твердо заявленную на встрече 29 апреля в Минске путинскую позицию, обусловлены внешнеэкономическими и внешнеполитическими факторами, в центре которых стоят события в Украине. Дело в том, что чем глубже путинская Россия увязает в российско-украинском кризисе, тем слабее становятся ее переговорные позиции даже со своими союзниками-вассалами.

Лукашенко, пользуясь, что называется, моментом, добился новых договоренностей по нефтяным вопросам и по очередному российскому кредиту. Москве в создавшейся ситуации, когда события на востоке и юге Украины развиваются вовсе не по крымскому сценарию, чрезвычайно важно обеспечить гарантированное подписание договора о ЕАЭС 29 мая в Астане всеми сторонами. Поэтому она уступила в вопросе отмены взимания экспортных пошлин от нефтепродуктов, которые должны были, казалось, по-прежнему перечисляться в российский бюджет аж до 2025 года. В следующем году половина суммы пошлин (а это порядка 1,5 миллиарда долларов) останется в белорусском бюджете. Конечно, это не те 4 миллиарда, на которые рассчитывал Лукашенко и что обещал в свое время Путин, но все же...

Уже в мае Владимир Путин пообещал предоставить кредит Беларуси на пополнение оскудевших золотовалютных резервов в размере 2 миллиардов долларов. А в 2015 году Минск может рассчитывать еще на 500 миллионов долларов. Надо понимать, что те 440 миллионов, которые были предоставлены Беларуси еще в декабре прошлого года, в эти 2 миллиарда не засчитываются и являются кредитом российского банка "ВТБ". О том, что выбитые миллиарды для белорусских властей жизненно необходимы, можно судить по тому, что с начала года наши резервы сократились на 1,2 миллиарда долларов и составили на 1 мая 5,5 миллиарда, приближаясь к критической черте, за которой маячит сценарий валютного кризиса памятного 2011 года.

Помимо этого, Путин пообещал открыть российский рынок для автомобилей китайской марки "Джили", собираемых в Беларуси. Счет идет на 25—30 тысяч авто, которые только и могут быть проданы на российском авторынке. Путину для этого нужно укоротить лобби российских автопроизводителей и закрыть глаза на уровень локализации, который показывает, какова доля комплектующих в автомобиле, производимых в самой Беларуси. Она должна быть не менее 40—50%.

Возможно, были достигнуты и другие договоренности, пусть и менее значимые для Беларуси. Но в ответ, естественно, Лукашенко должен идти строго в фарватере российской внешней политики. В свете этих уступок напрашивается вопрос: что же заставило Путина за считанные дни заметно скорректировать свой подход к и так верноподданному союзнику?

По словам главы Минэкономразвития России Улюкаева, российская экономика со стадии стагнации по итогам второго квартала может скатиться в рецессию с падением ВВП на 0,1% и ростом инфляции до 7,6%. ВВП первого квартала снизился на 0,5% к предыдущему. Улюкаев ожидает бегства капитала из страны в 2014 году в сумме 150 миллиардов долларов. Золотовалютные резервы России за январь—апрель текущего года снизились на 37,3 миллиарда (до 472,3 млрд долларов). Из-за экономических санкций Запада, Японии и других стран россияне стали массово скупать доллары и евро. В марте спрос на доллары вырос на 48% до 8 миллиардов, а на евро — на 50% до 5,3 миллиарда. Ввиду резко возросшего спроса населения на валюту банкам пришлось ввезти в Россию наличных на 15 миллиардов в долларовом эквиваленте. Помимо этого со счетов в банках физические лица сняли 6,9 миллиарда долларов — максимальную сумму за весь период ведения статистики Банком России. Опасаясь санкций и девальвации, российские вкладчики забирают из банков и рублевые депозиты. Потери банков за первый квартал составили порядка 400 миллиардов российских рублей. США и ЕС продолжают наращивать санкции. Так, американцы отзывают торговые льготы для России, действовавшие в соответствии с Общей системой преференций (GSP) в отношении развивающихся стран. Совет ЕС наложил арест на имущество двух крымских компаний — "Черноморнефтегаз" и "Феодосия", которые были экспроприированы Россией у Украины. Российские компании опасаются идти работать в Крым: их деятельность сразу блокируется западными партнерами.

Кроме экономических факторов все большее давление оказывают на Путина факторы политического порядка. Действия Путина поставили под угрозу весь сложившийся после Второй мировой войны мировой порядок. Можно лишь припомнить аннексию Китаем северных территорий Индии с целью прямого выхода к границам Пакистана, и захват Саддамом Хусейном Кувейта. Крымская аннексия подорвала всю сложившуюся послевоенную систему безопасности мира. Введенные Западом в действие экономические и визовые санкции больней всего ударили по путинскому окружению и начинают распространяться на средний класс. Шовинистическая великодержавная волна, поднятая Путиным, может выйти из-под его же контроля. С одной стороны, наиболее шовинистически настроенная часть российского общества подталкивает его идти до конца, захватывая так называемую Новороссию, с другой — пикирующая экономика (ведь западные санкции только разворачиваются), что может враз отрезвить российское руководство и имперские настроения отдельных слоев россиян. Политическая позиция, когда экономика буксует и, значит, нужны иные отвлекающие сильнодействующие на общество средства, весьма скользкая и опасная. Если безрассудство Путина выльется в открытое пересечение российской армией границ Украины, последствия будут непредсказуемы для всех. Украина — крупнейшая по территории страна Европы (не считая, конечно, евроазиатской России). Вооруженные силы Украины при всей их невысокой боеготовности — это все же не армия Грузии. Кроме большой крови экспансионистские планы могут окончательно завести Путина в украинскую западню. Запад объявил о введении против России третьей волны более серьезных экономических и политических санкций в случае, если она сорвет президентские выборы в Украине, назначенные на 25 мая.

Пока Путин притормозил, видимо, рассчитывая, что российские диверсанты вкупе с местными сепаратистами сделают и так свое грязное дело. По меньшей мере в Донецкой и Луганской областях. Изменилась и его риторика. Он заявил, что, мол, выборы президента Украины — это "движение в правильном направлении", и в который раз сообщил об отводе своих войск от российско-украинской границы. Надо полагать, что, мягко говоря, двусмысленность положения московского правителя сказалась на его переговорной позиции с Лукашенко. Путину, оказавшемуся в мировой изоляции, сегодня дорог и люб любой союзник. Этим и воспользовался самый из них любимый и заклятый.

ПРИГОВОР

## *Семь лет с конфискацией*

Бывший гендиректор ОАО "Холдинг "Могилевводстрой" Евгений Зюзин приговорен к семи годам лишения свободы с конфискацией имущества, сообщает УСК по Могилевской области.

Бывший глава холдинга обвиняется в получении от представителей коммерческой структуры Российской Федерации взятки в размере 400 тысяч российских рублей за решение вопроса о заключении договоров на оказание транспортных услуг и осуществление работ по рекультивации земель в Республике Коми, а также в хищении горюче-смазочных материалов холдинга на сумму более 18,5 миллиона белорусских рублей.

